СПЕЦЫЯЛЬНА ДЛЯ «ЗВЯЗДЫ»

**Аляксандр ІВАНОЎСКІ:**

# «АСНОЎНАЯ ЗАДАЧА ПРАКУРОРСКАГА НАГЛЯДУ — НЕ ДАПУСЦІЦЬ ПАКАРАННЯ НЕВІНАВАТАГА ЧАЛАВЕКА»



***Напэўна яшчэ са сталінскіх часоў, калі роля пракуратуры зводзілася толькі да абвінавачання трапіўшых у жорны следства людзей у свядомасці нашых суграмадзян узнік стэрэатып рэпрэсіўнага пракурорскага работніка. Аднак на самай справе гэта не так. Сёння пракуроры нярэдка выступаюць не толькі як абвінаваўцы, але і як абаронцы грамадзян нашай краіны ад празмернага засілля бюракратыі, халатнасці ці непрафесійнасці следства, ад судовых памылак, у рэшце рэшт.***

***Аб тым, як пракуратура ажыццяўляе нагляд за законнасцю судовых рашэнняў па крымінальных і грамадзянскіх справах, карэспандэнт «Звязды» гутарыць з намеснікам Генеральнага пракурора Аляксандрам ІВАНОЎСКІМ.***

**— Аляксандр Уладзіміравіч, напачатку хацелася б пачуць ваша меркаванне аб дзейнасці судовай сістэмы ў нашай краіне. Збоку, як кажуць, бачна лепш. Якія змены, пазітыўныя ці негатыўныя, на вашу думку, там адбыліся апошнім часам?**

— На маю думку, пасля прызначэнння на пасаду старшыні Вярхоўнага суда Валянціна Алегавіча Сукалы ў судовай сістэме адбыўся шэраг пазітыўных змен. Судовыя органы пачалі больш аператыўна аналізаваць практыку прымянення пакаранняў за такія небяспечныя віды злачынстваў, як бандытызм, заказныя забойствы. Суддзі сталі больш прынцыпова і кваліфікавана выконваць сваю работу.

**— І ўсё ж з судовымі памылкамі людзі сутыкаюцца часцей, чым хацелася б. Прычым бываюць выпадкі як празмернай жорсткасці судовых рашэнняў, так і неабгрунтаванай мяккасці. Якія прысуды вам даводзіцца апратэстоўваць часцей?**

— Напачатку хацеў бы адзначыць, што ў цэлым судовая сістэма краіны працуе нармальна. Але, вядома ж, не абыходзіцца і без памылак. У судах працуюць жывыя людзі, а чалавеку, як вядома, уласціва памыляцца.

Калі ж класіфікаваць гэтыя судовыя памылкі з пракурорскага пункту гледжання, то апошнім часам мы найчасцей выносілі пратэсты з-за няправільнай кваліфікацыі судом таго ці іншага злачынства і залішняй мяккасці прыгавораў.

Бываюць, праўда, выпадкі, калі суддзі не пагаджаюцца з нашымі меркаваннямі. У цэлым задавальняецца прыкладна 60 працэнтаў уносімых пракурорамі пратэстаў.

Разам з тым мы ўносім пратэсты і на празмерна жорсткія прысуды. Бываюць выпадкі, калі падчас працэсу пракуроры здымаюць абвінавачванні, калі бачаць, што чалавек сапраўды не парушыў закон.

Наогул, зараз асноўная задача пракурорскага нагляду — не дапусціць пакарання невінаватага чалавека.

І нават калі чалавек пераступіў закон, але зрабіў гэта выпадкова і не нанёс вялікай шкоды, мы не настойваем на тым, каб суды пазбаўлялі такіх людзей волі. Наадварот, раім прымяняць у такіх выпадках штрафныя санкцыі ці ўмоўныя пакаранні.

**— Вы адзначылі залішнюю мяккасць суддзяў. Разам з тым у нашай краіне за мінулы год каля 5 мільёнаў чалавек было прыцягнута да адміністрацыйнай адказнасці. Атрымліваецца, у сярэднім кожны другі жыхар Беларусі — правапарушальнік. Няўжо мы сапраўды такая законанепаслухмяная нацыя?**

— Так, у нас сапраўды вельмі шмат людзей прыцягваюцца да адміністрацыйнай адказнасці. Прычым такія пакаранні выносяцца не толькі і не столькі судамі. Напрыклад, за мінулы год супрацоўнікамі Дзяржаўтаінспекцыі за парушэнні правілаў дарожнага руху прыцягнута да адміністрацыйнай адказнасці амаль 3,5 мільёна чалавек. Вядома, такая статыстыка не можа радаваць. Яна сведчыць аб нізкай прававой і наогул чалавечай культуры людзей. Але ж і панікаваць таксама не варта, паколькі абсалютная большасць такіх правапарушальнікаў не ўяўляюць небяспекі для грамадства.

**— Тым не менш, наша грамадства апошнім часам усё больш крыміналізуецца. Аб чым, напрыклад, сведчыць беспярапынная напаўняльнасць месцаў пазбаўлення волі.**

— Такая тэндэнцыя сапраўды ёсць. Зараз у калоніях, турмах і следчых ізалятарах знаходзіцца 60 тысяч 617 чалавек.

Месцы пазбаўлення волі перапоўненыя. Напрыклад, у следчых ізалятарах і турмах утрымліваецца амаль на 50 працэнтаў больш людзей, чым прадугледжана месцаў.

Перапоўненасць турмаў і следчых ізалятараў прыводзіць да распаўсюджвання туберкулёзу. Для лячэння хворых на туберкулёз асуджаных асоб у Беларусі створана спецыяльная калонія, дзе зараз знаходзіцца больш за 1,5 тысячы чалавек.

Як і ўсё наша грамадства, не абмінула месцы пазбаўлення волі і чума XX стагоддзя — СНІД. Заўважу, што ў калоніі ВІЧ-інфіцыраваныя трапляюць з волі. У саміх месцах пазбаўлення волі гэтая хвароба не распаўсюджваецца. Носьбіты гэтага віруса ўтрымліваюцца асобна ад астатніх зняволеных. Для іх унутры калоній ствараюцца своеасаблівыя міні-калоніі.

**— Існуе яшчэ і такая негатыўная практыка, як адпраўленне судамі спраў на дадатковае даследаванне. Ваша стаўленне да падобных судовых рашэнняў?**

— Вядома ж, негатыўнае. У шэрагу выпадкаў на даследаванне адпраўляюць справы суддзі, якія не хочуць браць на сябе адказнасць, праяўляць прынцыповасць у складанай сітуацыі. Тым самым такія служкі Феміды не толькі ўзвальваюць дадатковы цяжар на следства, але і ствараюць судовую цяганіну. Таму мы ўнеслі адпаведную прапанову ў праект новага Крымінальна-працэсуальнага кодэкса, каб выключыць магчымасць накіравання судамі спраў на дадатковае даследаванне.

**— Прайшло толькі паўтара года пасля аб'яўлення апошняй амністыі, а месцы зняволення, як вы адзначылі, зноў перапоўненыя. Як вы лічыце, можа, мэтазгодна аб'явіць новую амністыю? Ці гэтага рабіць непажадана, каб яшчэ больш не пагоршыць крымінагенную сітуацыю ў краіне?**

— Сапраўды, восенню 1996 года ў нашай краіне была аб'яўлена амністыя. Пад яе падпадалі 29 тысяч асуджаных, з якіх 8800 былі вызвалены з месцаў пазбаўлення волі. Ёсць, вядома ж, выпадкі, калі амніcціраваныя грамадзяне, апынуўшыся на волі, зноў парушылі закон. Але ў цэлым крымінагенную сітуацыю амністыя не пагоршыла, бо сапраўды небяспечныя злачынцы засталіся ў месцах пазбаўлення волі. Наколькі мне вядома, зараз вывучаецца пытанне аб аб'яўленні новай амністыі. Калі яна будзе аб'яўлена, дакладна яшчэ невядома. Я лічу, што амністыя вельмі патрэбная, каб палепшыць сітуацыю ў месцах пазбаўлення волі. І наогул, для многіх людзей праяўленая дзяржавай гуманнасць будзе добрым шанцам стаць на правільны жыццёвы шлях. Турэмныя «універсітэты», як вядома, ператвараюць некаторых асоб у прафесійных крымінальнікаў. У гэтым сэнсе турма, пэўна, не самае лепшае месца для перавыхавання.

Але іншага выйсця вельмі часта няма. Дзяржава проста вымушана ізаляваць некаторых грамадзян ад астатніх членаў грамадства. У нашай краіне ёсць асобы, якія маюць па 5—10 судзімасцяў. Такіх «выдаткаў» грамадства наўрад ці перавыхаваеш у законапаслухмяных асоб.

**— Аляксандр Уладзіміравіч, а можа нам варта пераняць заходні вопыт? Як вядома, і ў Расіі месцы пазбаўлення волі перадаюцца з сістэмы Міністэрства ўнутраных спраў пад юрысдыкцыю Міністэрства юстыцыі. Ці не мэтазгодна гэта зрабіць і ў нас? Тым больш, што жывём у адным Саюзе.**

— Так, Расія вырашыла ўзяць на ўзбраенне заходні вопыт. Там лічыцца, што ў дэмакратычным грамадстве пенітэнцыярная сістэма павінна знаходзіцца пад кантролем мінюста. Магчыма, і ў нашай дзяржаве калі-небудзь месцы пазбаўлення волі будуць перададзены пад юрысдыкцыю Міністэрства юстыцыі. Але ў бліжэйшы час правесці такую рэформу пенітэнцыярнай сістэмы немэтазгодна ды і нерэальна. Трэба спачатку падрыхтаваць умовы для такой рэформы. Напрыклад, вырашыць пытанне з аховай месцаў пазбаўлення волі, работы з кантынгентам. Імгненна гэта зрабіць немагчыма. У Малдове неяк спрабавалі валявым рашэннем перадаць пенітэнцыярную сістэму мінюсту і атрымалі мноства праблем не толькі ў гэтым міністэрстве, але і ў саміх месцах пазбаўлення волі, дзе істотна пагоршыліся ўмовы жыцця зняволеных. Вось да чаго прыводзіць паспешлівасць.

**— Аляксандр Уладзіміравіч, у нашай размове цяжка абысці пытанне аб смяротным пакаранні. Вам даводзіцца вывучаць усе без выключэння судовыя прыгаворы да выключнай меры пакарання. Ці былі апошнім часам выпадкі, калі пракуратура аспрэчвала смяротны прыгавор суда і настойвала на яго змякчэнні?**

— Не. Мы не аспрэчылі ніводнага смяротнага прыгавору суда.

Па-першае, суды пры вынясенні такіх рашэнняў падыходзяць вельмі ўзважана, высвятляюць усе акалічнасці крымінальнай справы. І верагоднасць дапушчэння судовай памылкі ў такіх выпадках фактычна выключана.

Па-другое, ва ўмовах, калі злачынцы звярэюць, смяротная кара — проста неабходная самаабарона грамадства.

На жаль, апошнім часам рэзка ўзрасла колькасць асоб, асуджаных да смяротнага пакарання. Напрыклад, у 1993 годзе ў Беларусі да выключнай меры пакарання было асуджана 20 грамадзян, у 1994-м — 24, у 1995-м — 37, у 1996-м — 29, а ў 1997 годзе — 46. Летась, дарэчы, смяротныя прыгаворы былі выкананы ў адносінах да 31 асуджанага.

Хачу адзначыць, што на працягу апошніх гадоў смяротнае пакаранне прымянялася толькі ў адносінах да асоб, якія ўчынілі наўмысныя забойствы пры абцяжваючых абставінах. І хоць гэта выключная мера, у некаторых выпадках суды проста не маглі вынесці іншае рашэнне.

**— Але ж зараз ў Крымінальным кодэксе прадугледжана і пажыццёвае зняволенне. Ці ёсць выпадкі прымянення гэтай меры пакарання ў Беларусі? І ўвогуле, ці гатова наша пенітэнцыярная сістэма ўтрымліваць зняволеных пажыццёва?**

— Пакуль у нашай краіне суды не вынеслі ніводнага прыгавору да пажыццёвага ўтрымання ў месцах пазбаўлення волі. Калі ж такія зняволеныя з'явяцца, то, мяркую, асаблівых праблем з іх утрыманнем не будзе, паколькі такіх асоб будзе не так ужо і шмат.

**— Як часта да вас звяртаюцца людзі са скаргамі на судовыя рашэнні і якія гэта звычайна скаргі? Ці не сведчыць вялікая колькасць людзей за кратамі ў нашай краіне аб тым, што суд з'яўляецца толькі рэпрэсіўным інструментам барацьбы са злачыннасцю?**

— Колькасць скаргаў апошнім часам істотна павялічылася. Скаргі самыя розныя, як і выпадкі, у якія трапілі людзі, што лічаць сябе несправядліва асуджанымі. Нам даводзіцца вывучаць тысячы крымінальных спраў. Але гэта не значыць, што мы ўносім столькі ж пратэстаў на судовыя рашэнні. У асноўным жа суддзі выносяць справядлівыя прыгаворы.

А з меркаваннем аб «рэпрэсіўнасці» нашай судовай сістэмы я катэгарычна не згодны. Няма такой «запраграміраванасці» беларускага суда толькі на абвінаваўчы ўхіл, на тое, каб абавязкова пазбавіць чалавека волі. Складаная крымінагенная сітуацыя вымушае і праваахоўныя органы, і судовую сістэму весці жорсткую барацьбу са злачыннасцю.

**Мікола ДЗЯБЁЛА.**

ЕЖА

## У БЕЛАРУСІ ІСНУЮЦЬ НОРМЫ ВОДПУСКУ БУЛЬБЫ

**Пагалоска аб тым, што ў нашай бульбянай краіне месцамі існуюць нормы водпуску «другога хлеба», ходзіць у народзе ўжо даўно. Гэтыя чуткі пацвердзіў на нядаўняй прэс-канферэнцыі і міністр гандлю Пётр Казлоў.**

Галоўная прычына існуючага становішча — не ўдалося захаваць бульбу пасля леташняга неўраджаю. Аднак, як падкрэсліў міністр, «генеральнай лініі» на ўвядзенне ліміту няма, інакш кажучы, нормы водпуску могуць існаваць там, дзе загадзя не паклапаціліся аб назапашванні ў дастатковай колькасці «другога хлеба».

Напрыклад, у Брэсце ніякіх лімітаў няма, а вось у сталіцы ёсць, пацвердзіў міністр гандлю. Нагадаем: летась ураджай бульбы быў на 20—25 працэнтаў меншы, чым у 1996 годзе, прычым адставанне назіралася як у прыватным сектары, так і ў сельскагаспадарчых прадпрыемствах.

Прадбачачы попыт на бульбу, толькі па Мінску планавалася восенню мінулага года закупіць 22 тысячы тон бульбы супраць папярэдніх 6-7 тысяч тон. Відаць, не ўратавала і гэтая мера. Хаця, як паведаміў Пётр Казлоў, усе пастаўкі бульбы за мяжу (хаця і не ў поўным аб'ёме) былі выкананы.

Паўплываў на сітуацыю і традыцыйны час паміж сезонамі, калі старыя запасы ў большасці заканчваюцца, а новы ўраджай яшчэ не паспеў. Добра, што пакуль Мінскі гарвыканкам стрымлівае ўласнае ж рашэнне аб «свабодным плаванні» цэн на імпартныя харчовыя тавары, у пералік якіх уваходзіць і бульба. Інакш для беларусаў — бульбяной краіны — яна была б залатой і ў прамым і ў пераносным сэнсе.

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

## МЯСНЫ ДЭФІЦЫТ НЕ АБМІНУЎ І ГОМЕЛЬШЧЫНУ

**Любая вандроўка ў чужы горад традыцыйна завяршаецца для многіх жанчын наведваннем мясцовых магазінаў: каб ўпэўніцца ў тым, што ніякіх дэфіцытаў тут няма, ці імкнецца выкарыстаць магчымасць папоўніць халадзільнік прадуктамі, якія адсутнічаюць дома. Улічваючы, што ў сталіцы ўжо некалькі месяцаў назіраецца «курыны» і каўбасны дэфіцыт, мая вандроўка па гомельскіх магазінах была прадыктавана жаданнем знайсці гэтыя прадукты ў абласным цэнтры.**

Ад незнаёмай субяседніцы даведалася, што айчынных куранят у Гомелі даўно знайсці немагчыма — іх месца паўсюдна на гандлёвых прылаўках займаюць імпартныя курыныя кумпячкі па «завоблачных» цэнах. Вараная каўбаса таксама сустракаецца не ў кожнай краме, аднак да «каўбасных чэргаў», ужо звычайных для мінчан, у Гомелі справа пакуль не даходзіць.

Сапраўды, з шэрагу магазінаў, размешчаных у цэнтры Гомеля, вараная каўбаса прысутнічала прыблізна ў палове з іх, аднак ніякага ажыятажу вакол яе не назіралася.

Найвялікшы выбар прапаноўваў фірменны магазін «Мяса. Каўбасы» ААТ «Гомельскі мясакамбінат», дзе можна было па цане 85.900 руб. набыць каўбасу «Прыбалтыйская», па 84.600 руб. — «Славянскую», па 97.400 руб. — «Свіслацкую», па 144.900 руб. — вяндліну «Сакавітую».

Дарэчы, гэта быў адзіны магазін, дзе мне давялося знайсці свініну (84.600 руб. за 1 кг). Затое амаль паўсюдна ў гарадскіх магазінах прысутнічаў фарш для гамбургераў (22.400 руб. за 250 г), з чаго вынікала, што гамбургеры — хутчэй за ўсё любімая і адзіная ежа гамельчан. А вось ялавічына (54 тыс. руб.) і цяляціна (91.800 руб.) сустракаліся тут толькі эпізадычна. Заўважу, што не давялося знайсці ў абласным цэнтры і айчыннага разліўнога алею.

Светлай плямай на фоне курына-мяснога дэфіцыту выглядае напаўненне гомельскіх магазінаў малочнымі прадуктамі, а дакладней, тварагом, які мінчанам даводзіцца ў сталічных крамах падпільноўваць.

Кошт на адзін кілаграм нятлустага тварагу вагаецца ў Гомелі ад 25 да 29 тысяч, тлусты ж тварог каштуе 40—42 тысячы. Былі тут і дзіцячыя малочныя прадукты — дзіцячы кефір у пакеціках па 200 грамаў (4200 руб.) і дзіцячае малако ў бутэлечках па 0,2 л (4400 руб.), — якіх, на жаль, у сталіцу не пастаўляюць. Хутчэй за ўсё, маладыя мамы ацанілі б іх па заслугах.

Ва ўсім жа астатнім гомельскія магазіны падобныя на мінскія: здаецца, што ў іх усё ёсць (і дарагая рыба па цане мяса, і вэнджаныя каўбасы, і цвёрдыя сыры), вось толькі чым накарміць сям'ю — зусім незразумела...

**Надзея НІКАЛАЕВА.**

УРАДЖАЙ-98

## ПРА КАРМЫ, ЯК ПРА ХЛЕБ,

### дбаюць у міжгаспадарчым акцыянерным аб'яднанні, што ў Капыльскім раёне

**Звыш дваццаці гадоў таму на карце Капыльскага раёна з'явілася новае вытворча-эканамічнае фарміраванне — аднайменнае міжгаспадарчае акцыянернае аб'яднанне. Дваццаць пяць гаспадарак, аб'яднаўшы свае фінансавыя сродкі і ўзяўшы ў дзяржавы доўгатэрміновы крэдыт, заснавалі зусім невядомае па тым часе сельскагаспадарчае прадпрыемства. Накірункам ягонай дзейнасці вызначылі вытворчасць свініны.**

Нялёгкі шлях, поўны супярэчнасцяў, пошукаў, роздумаў, прайшло за час свайго існавання аб'яднанне. Асабліва гэта датычыцца апошніх гадоў. Тым не менш, стыхія рыначных адносінаў «Капыльскае» не спалохала, зусім не паўплывала на яго развіццё. Наадварот, яна прымусіла мясцовых кіраўнікоў, усіх без выключэння працаўнікоў аб'яднання згуртавацца і, што называецца, закасаўшы рукавы, узяцца за справу.

Варушыць мінулае, прыгадваць, што і як было напачатку, вядома ж, можна, тым больш, што сваёй, няхай сабе і недалёкай яшчэ, гісторыяй тут даражаць і ганарацца. Але гэта крыху не па тэме. Таму лепш паглядзім на сённяшні дзень аб'яднання, на цяперашнія набыткі і здзяйсненні яго.

Для пачатку — колькі лічбаў. Дарэмна даволі часта сцвярджаюць, што яны — рэч сухая і нецікавая. Лічбы — асабліва калі яны важкія, абгрунтаваныя — «скажуць» не менш, а нават больш за іншыя развагі. Дык вось: за першы квартал гэтага года міжгаспадарчае аб'яднанне рэалізавала 780 тон свініны. Атрымана 3 мільярды 800 мільёнаў рублёў прыбытку. Рэнтабельнасць вытворчасці склала 8 працэнтаў. На дарошчванні і адкорме свіней сутачныя прывагі роўныя 410 грамам. Сярэднямесячная заработная плата працаўнікоў «Капыльскага» — 3.700.000 рублёў.

І тут, вядома ж, ніяк не абысціся без трафарэтнага выразу - за гэтымі лічбамі стаяць канкрэтныя людзі. У штодзённых буднях яны — жывёлаводы, механізатары, паляводы, спецыялісты — укладваюць у сваю справу шмат працы, майстэрства, сіл...

Гаворыць дырэктар аб'яднання Леанід Чарніковіч:

— Штодзённа і штохвілінна кантактуючы з працаўнікамі аб'яднання, бачачы і, вядома ж, разумеючы іхнюю стараннасць, настойлівасць і шчырасць у працы, я, як вы разумееце, з вялікай павагай стаўлюся да людзей. Для мяне яны — на першым плане.

Мы не адзін раз бачылі, як працуе, «кантачыць» Леанід Леанідавіч са сваімі падначаленымі. Умее выслухаць, што называецца, — пачуць і зразумець. Умее паставіць задачу, канкрэтнае заданне. Умее, у рэшце рэшт, спытаць...

Не, ён, Чарніковіч,зусім не жорсткі і, тым больш, ніколькі не дэспатычны кіраўнік. Падначаленым ён давярае, ініцыятыву ці якую там небудзь прапанову кожнага выслухае, параіць разам абмеркаваць, прыйсці да адпаведнай высновы. Мэта пры гэтым праследуецца адна: была б карысць для агульнай справы, аддача, рэальныя вынікі.

Дваццаць пяць гаспадарак — членаў міжгаспадарчага акцыянернага аб'яднання «Капыльскае» — гэта, як няцяжка зразумець, не нейкія там «добрыя дзядзькі», якія, скажам так, «скінуліся» на нейкую там «дабрачыннасць». Гэта таксама гаспадары: такія ж, як і Леанід Леанідавіч, дбайныя, здатныя, а некаторыя нават куды больш сталыя і вопытныя, чым ён. Інакш кажучы, справу таксама ведаюць, працаваць хочуць і ўмеюць. А яшчэ — умеюць лічыць (і надзвычай прыдзірліва лічыць!) грошы. Сапраўды: хто сёння «так сабе» кіне куды-небудзь, у невядомы «стэп», тысячу-другую нашых, няхай сабе і не канверсаваных, «зайцоў»...

Маючы ў сваім распараджэнні даволі прыстойныя па сучасных мерках цэхі, манаблокі, фермы, «Капыльскае», па сутнасці справы, атрымлівае ад акцыянераў толькі кампаненты для кармоў. У першую чаргу гэта збожжа. На долевых пачатках яно і паступае ў аб'яднанне. Тут жа, на месцы, з яго гатуюцца камбінаваныя кармы.

Аднак з аднаго толькі збожжа добры, збалансаваны па ўсіх пажыўных якасцях, корм не зробіш. Гэта толькі так жартуюць у народзе, што свінні, нібыта, з'ядуць усё, без разбору. А ім жа для росту і нармальнага развіцця патрэбны і вітамінныя дабаўкі. А гэта найперш травяная мука-гранулы.

Гэтай мукі ў «Капыльскім» штогод нарыхтоўваюць не адну сотню тон. І вось ужо ў гэтыя дні, напрыканцы мая, у гаспадарцы на поўную магутнасць запрацавалі агрэгаты вітаміннай мукі.

Ужо за некалькі дзён сенакосу ў міжгаспадарчым акцыянерным аб'яднанні «Капыльскае» нарыхтавалі звыш 50 тон гранул. Духмяных, такіх карысных і пажыўных! Кожны дзень наведваецца Леанід Чарніковіч да механізатараў — у поле, на сенажаць, да агрэгата вітаміннай мукі — вопытных і спрактыкаваных машыністаў і рабочых. Ён сам, гэтак жа, як і ягоныя падначаленыя, умее даражыць часам, бо ведае: зімой усё гэта так спатрэбіцца...

І нарэшце, пра людзей, тых, чыімі набыткамі і справамі, здзяйсненнямі і проста штодзённымі вынікамі так ганарыцца дырэктар аб'яднання. С. Пяткевіч, Н. Турэйская, Г. Лагавая няхай сабе і на пенсіі, аднак ніяк не могуць уявіць сябе без калектыву «Капыльскага». М. Крук, М. Мялешка, М. Латушка, З. Ярмольчык, І. Чэрнік, Г. Пашкоў, В. Макарэвіч таксама ўносілі і ўносяць дастойны ўклад у скарбонку добрых набыткаў аб'яднання.

... Радуюць вока палі і сенажаці «Капыльскага». Усюды сёння кіпіць работа. У тамтэйшых вёсках гэта самыя звычайныя будні.

**Анатоль МЯСНІКОЎ, Іван ПРАКАРЫНА.**

*Капыльскі раён.*

## ПАСТАНОВА ПАЛАТЫ ПРАДСТАЎНІКОЎ НАЦЫЯНАЛЬНАГА СХОДУ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ АБ ВЫЗВАЛЕННІ РАЧКОВА Л. У. З ПАСАДЫ СТАРШЫНІ ПАСТАЯННАЙ КАМІСІІ ПАЛАТЫ ПРАДСТАЎНІКОЎ НАЦЫЯНАЛЬНАГА СХОДУ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ПА МІЖНАРОДНЫХ СПРАВАХ І СУВЯЗЯХ З СНД

Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

Вызваліць з 13 мая 1998 года дэпутата Рачкова Леаніда Уласавіча з пасады старшыні Пастаяннай камісіі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па міжнародных справах і сувязях з СНД у сувязі з пераводам на іншую работу (пункт 5 артыкула 29 Кодэкса законаў аб працы Рэспублікі Беларусь).

**Старшыня Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь А. МАЛАФЕЕЎ**

13 мая 1998 г., г. Мінск.
№ 581-П/IV

## РАСЦІ, НАШ ЛЕС, У СПАДЧЫНУ НАШЧАДКАМ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)**

Калі ж надыдзе час збору лясного «ўраджаю» і на дзялянкі спелых соснаў і бяроз выйдуць лесарубы — яны абавязкова ўспомняць добрым словам майстэрства сваіх калег па лясной працы. Наогул, і тыя, хто даглядае, і тыя, хто сячэ лес, абралі для сябе вельмі няпростую спецыяльнасць. Нездарма яна, нягледзячы на рост механізацыі працы, паранейшаму застаецца ў спісе цяжкіх прафесій з павышанай небяспекай.

**Фота Яўгена ПЯСЕЦКАГА.**

**На здымках:** *ідзе пасадка новых плантацый; расці, ялінка!; на лесапасадачнай машыне працуюць вопытныя работніцы Вольга ДАКУКА, Фаіна АЎЧЫННІКАВА, Алена МІШКІНА, Марыя КАТАСОНАВА.*

# АД ПАДКАМІТЭТА ПА ДЗЯРЖАЎНЫХ ПРЭМІЯХ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ У ГАЛІНЕ НАВУКІ І ТЭХНІКІ

**Падкамітэт па Дзяржаўных прэміях Рэспублікі Беларусь у галіне навукі і тэхнікі паведамляе, што да ўдзелу ў конкурсе на саісканне Дзяржаўных прэмій Рэспублікі Беларусь 1998 года дапушчаны наступныя работы:**

**У ГАЛІНЕ НАВУКІ:**

1. БАРЫСЕВІЧ М.А., ТАЛКАЧОЎ В.А., БЛАХІН А.П., ПАВЕДАЙЛА У.А.

Цыкл работ «Дынаміка вярчальнага руху электронна-ўзбуджаных мнагаатамных малекул у газавай фазе».

*Прадстаўлены Інстытутам малекулярнай і атамнай фізікі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі.*

2. ТАНАЕЎ В.С., САТСКОЎ Ю.Н., ГАРДОН В.С., СТРУСЕВІЧ В.А., ШАФРАНСКІ Я.М., КАВАЛЁЎ М.Я.

Цыкл работ «Мадэлі і метады тэорыі раскладаў».

*Прадстаўлены Інстытутам тэхнічнай кібернетыкі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі.*

3. ГАБАСАЎ Р.Ф., КІРЫЛАВА Ф.М.

Цыкл работ «Якасныя і канструктыўныя метады рашэння аптымізацыйных задач і іх прымяненні».

*Прадстаўлены Інстытутам матэматыкі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі.*

4. ГУДАК С.П., КАШЫЦКІ Э.С., КУДЗЕЛЬСКІ А.В., НЕЧАЕЎ М.У., ХОМІЧ П.З., ЯСАВЕЕЎ М.Г.

Работа «Адкрыццё і народнагаспадарчае выкарыстанне радовішчаў мінеральных вод у Рэспубліцы Беларусь (навуковыя даследаванні, пошукава-разведачныя работы, медыка-бальнеалагічнае і пітное асваенне)».

*Прадстаўлена Інстытутам геалагічных навук Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі.*

5. ЧАРАНКЕВІЧ С.М., САМАЛЬ А.Б., СЕМЯНКОВА Г.М., ЦІМАШЭНКА А.В., ХМЯЛЬНІЦКІ А.І.

Цыкл работ «Біяфізічныя механізмы функцыянальнага водгуку клетак».

*Прадстаўлены Беларускім дзяржаўным універсітэтам.*

6. ТРАЦЦЯК С.І., ЛЕАНОВІЧ С.І., ЛЕАНЦЮК А.С., АСТАПЕНКА В.В., АБУХОЎСКІ А.А., РАМАНОЎСКІ А.І.

Цыкл работ «Выяўленне заканамернасцяў трансплантaлогіі, распрацоўка новых, найбольш эфектыўных метадаў лячэння цукровага дыябету і абгрунтаванне больш дасканалых метадаў перасадкі эндакрынных залоз і клапанаў сэрца».

*Прадстаўлены Мінскім дзяржаўным медыцынскім інстытутам Міністэрства аховы здароўя Рэспублікі Беларусь.*

7. БІРЫЧ Т.А., БАРКОЎСКІ Я.В., ЖАЛТОЎ Г.І., ЛАПІНА В.А., ПАЗНЯК М.І., ШКАДАРЭВІЧ А.П.

Цыкл работ «Механізмы развіцця глаукомы, катаракты, фотапашкоджанняў хорыярэтынальнага комплексу, новыя метады і сродкі лячэння».

*Прадстаўлены Мінскім дзяржаўным медыцынскім інстытутам Міністэрства аховы здароўя Рэспублікі Беларусь.*

8. ФЕДАРОВІЧ С.У., САКАЛОЎ С.М., СКЕПЬЯН М.А., ФІЛОНАЎ В.П.

Цыкл работ «Спалучэнчае ўздзеянне фактараў навакольнага асяроддзя на арганізм, імунаэкалагічныя механізмы фарміравання захворвання (дыягностыка, прафілактыка, лячэнне, рэабілітацыя) і стварэнне спецыялізаваных службаў (алергалагічнай, прафпаталагічнай)».

*Прадстаўлены Беларускім навукова-даследчым санітарна-гігіенічным інстытутам Міністэрства аховы здароўя Рэспублікі Беларусь.*

9. ПАЎЛОВІЧ С.А.

Цыкл работ «Магнітабіялогія і біямагнетызм».

*Прадстаўлены Гродзенскім дзяржаўным медыцынскім інстытутам Міністэрства аховы здароўя Рэспублікі Беларусь.*

10. БЕЛАЕНКА Я.Д., ЕРМАКОЎ С.Ф., РАДНЕНКОЎ У.Г., ВАРАНОВІЧ І.Р.

Цыкл работ «Мезаморфны стан сінавіяльнай вадкасці і стварэнне новых метадаў і сродкаў кіравання антыфрыкцыйнымі параметрамі прыродных і штучных трыбасістэм».

*Прадстаўлены Беларускім навукова-даследчым інстытутам траўматалогіі і артапедыі Міністэрства аховы здароўя Рэспублікі Беларусь.*

11. ЦАРАНКОЎ В.М., ІВАНОЎ Я.П., ПЯТРОЎ П.Ц., ГАПАНОВІЧ У.М.

Цыкл работ «Стварэнне, укараненне ў прамысловую вытворчасць і медыцынскую практыку гемакарэктараў новага пакалення».

*Прадстаўлены Акцыянерным таварыствам «Белмедпрэпараты» Беларускага дзяржаўнага канцэрна па вытворчасці і рэалізацыі фармацэўтычнай і мікрабіялагічнай прадукцыі, Навукова-даследчым інстытутам гематалогіі і пералівання крыві Міністэрства аховы здароўя Рэспублікі Беларусь.*

12. МУРАЎСКАЯ Г.У., ВІШНЕЎСКАЯ К.Я., КРУЦІЛІНА Н.І., МАРОЗКІНА Т.С., СУКАЛІНСКІ У.М., ТАРУЦІН І.Г.

Цыкл работ «Рашэнне праблемы павышэння эфектыўнасці лячэння анкалагічных хворых шляхам распрацоўкі ўкаранення ў клінічную практыку новых спосабаў прамянёвай тэрапіі».

*Прадстаўлены Навукова-даследчым інстытутам анкалогіі і медыцынскай радыялогіі Міністэрства аховы здароўя Рэспублікі Беларусь.*

13. КОПЦІК І.К., САМСОНАЎ У.П., БУДЗЕВІЧ Г.В., СЕМЯНЕНКА М.В., МІСКО А.В., КАРЧМІТ М.А.

Работа «Стварэнне сістэмы сартоў азімай пшаніцы (Triticum aestivum L.) і тэхналогіі вытворчасці збожжа харчовага прызначэння».

*Прадстаўлена Беларускім навукова-даследчым інстытутам земляробства і кармоў Акадэміі аграрных навук Рэспублікі Беларусь.*

14. МІХНЕВІЧ А.Я., ГЕРМАНОВІЧ І.К., БУЛЫКА А.М., ШУБА П.П., ШЧЭРБІН В.К., ПЛОТНІКАЎ Б.А.

Работа «Беларуская мова: Энцыклапедыя».

*Прадстаўлена Беларускім інстытутам праблем культуры Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь.*

15. ЦЯГАКА Л.І., САЛІВОН І.І., МІКУЛІЧ А.І., МАРФІНА В.У., ПОЛІНА Н.І.

Цыкл работ «Чалавек і яго біякультурная адаптацыя».

*Прадстаўлены Інстытутам мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору імя К.К.Крапівы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі.*

**У ГАЛІНЕ ТЭХНІКІ:**

1. БЕЛАВУС А.І., ЕМЯЛЬЯНАЎ В.А., КАМАРОЎ Ф.Ф., ЛАБАНОВІЧ Э.Ф., СІЛІН А.В., СОКАЛ В.А.

Цыкл работ «Распрацоўка новых метадаў праектавання і развіццё фізіка-тэхналагічных асноў стварэння высокіх тэхналогій вытворчасці канкурэнтаздольных мікраэлектронных вырабаў».

*Прадстаўлены Навукова-вытворчым аб'яднаннем «Інтэграл».*

2. ФЕЦІСАЎ В.П., БІРУКОЎ Б.А., ФЕАКЦІСТАЎ Ю.В., БАГЛАЙ Г.В., ФІЛІПАЎ В.У., ПАЎЛЮЧЭНКА А.П.

Работа «Комплексная распрацоўка тэхналогіі і асваенне вытворчасці канкурэнтаздольных канструкцый металакорду на Беларускім металургічным заводзе».

*Прадстаўлена Беларускім металургічным заводам Міністэрства прамысловасці Рэспублікі Беларусь.*

3. ДАРОЖКІН Н.М., ІВАШКА В.С., ІЛЬЮШЧАНКА А.Ф., КАШЫЦЫН Л.П., МАНОЙЛА Я.Д., ПАНЦЯЛЕЕНКА Ф.І.

Работа «Парашковыя ахоўныя пакрыцці: тэорыя, тэхналогія, практыка».

*Прадстаўлена Навукова-даследчым інстытутам парашковай металургіі з доследнай вытворчасцю Беларускага дзяржаўнага навукова-вытворчага канцэрна парашковай металургіі.*

4. НЕСЕНЧУК А.П., ЦІМАШПОЛЬСКІ У.І., СЦЯБЛОЎ А.Б., ТРУСАВА І.А.

Цыкл работ «Тэорыя высокатэмпературных энерга- і рэсурсазберагальных цеплатэхналагічных працэсаў у машынабудаванні і металургіі».

*Прадстаўлены Беларускай асацыяцыяй ліцейшчыкаў і металургаў.*

5. ПУХАВЫ А.А., ФЕНЬКО А.І., АЛЬШЭЎСКІ А.В., САВІЦКІ А.Д., ШПАК Ю.Ф., ЦІМАФЕЕЎ А.Ф.

Работа «Стварэнне канструкцыі і асваенне вытворчасці гідрасістэм рулявога кіравання з малагабарытнай помпай і механізмам інтэгральнага тыпу для легкавых і грузавых аўтамабіляў з нагрузкай на кіруемую вось да 1200 кгс».

*Прадстаўлена Барысаўскім заводам «Аўтагідраўзмацняльнік» Міністэрства прамысловасці Рэспублікі Беларусь.*

6. ФІЛОНАЎ І.П., ШЫПКО А.А., КАЖУРА Л.М., ФЕЛЬДШТЭЙН Я.Э., ЗАБАЎСКІ М.Ц.

Цыкл работ «Навуковыя асновы высокаэфектыўных тэхналогій апрацоўкі і ўмацавання дэталяў машына- і прыборабудавання».

*Прадстаўлены Беларускай дзяржаўнай політэхнічнай акадэміяй.*

**ПАДРУЧНІКІ:**

1. ПЯТРОЎ М.Я., МЯДЗВЕДЗЬ А.В., КОЛАС У.М.

Цыкл работ «Падручнік «Фізічнае выхаванне студэнтаў асноўнага аддзялення» і комплекс вучэбна-метадычных дапаможнікаў па тэорыі і методыцы фізічнага выхавання».

*Прадстаўлены Міністэрствам адукацыі Рэспублікі Беларусь.*

2. ХАРЛАМАЎ І.Ф.

Работа «Падручнік «Педагогіка» для студэнтаў педагагічных вышэйшых навучальных устаноў».

*Прадстаўлена Міністэрствам адукацыі Рэспублікі Беларусь.*

3. ЕМЕЛІЧАЎ У.А., МЕЛЬНІКАЎ А.І., САРВАНАЎ У.І, ТЫШКЕВІЧ Р.І.

Работа «Вучэбны дапаможнік «Лекцыі па тэорыі графаў» для вышэйшых і сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў».

*Прадстаўлена Міністэрствам адукацыі Рэспублікі Беларусь.*

4. РАДКЕВІЧ У.А.

Работа «Падручнік «Экалогія» для біялагічных спецыяльнасцяў вышэйшых навучальных устаноў».

*Прадстаўлена Міністэрствам адукацыі Рэспублікі Беларусь.*

Падкамітэт па Дзяржаўных прэміях Рэспублікі Беларусь у галіне навукі і тэхнікі звяртаецца да кіраўнікоў навуковых устаноў, вышэйшых навучальных устаноў, навуковых і навукова-тэхнічных таварыстваў, вытворчых аб'яднанняў, прадпрыемстваў, міністэрстваў і ведамстваў з просьбай правесці грамадскае абмеркаванне ўказаных работ і аўтарскіх калектываў.

**Водгукі, матэрыялы абмеркаванняў, прапановы і заўвагі па работах і аўтарскіх калектывах просьба накіроўваць у Падкамітэт па Дзяржаўных прэміях Рэспублікі Беларусь у галіне навукі і тэхнікі да 15 верасня 1998 года па адрасу: 220072, г. Мінск, прасп. Ф.Скарыны, 66, пакой 317; тэл.: 284-24-56, 239-31-11.**

КРЫМІНАЛ

## МІЛІЦЫЯ ШУКАЕ МАГЧЫМАГА ЗАБОЙЦУ ЖАНЧЫНЫ І ХЛОПЧЫКА Ў ШКЛОВЕ

**На мінулым тыдні «Звязда» паведамляла пра жудаснае двайное забойства, якое было ўчынена ў Шклове. Былі забіты жанчына і яе 10-гадовы сын, прычым на целе хлопчыка выяўлены шматлікія нажавыя раны.**

Сцвярджаюць, што забітая жанчына не вызначалася прыстойным ладам жыцця. У кватэры часта адбываліся гучныя гулянкі, а пляшка гарэлкі з'яўлялася «пропускам» на яе ледзь не для кожнага жадаючага. У нядзельны вечар, калі адбылася трагедыя, у кватэры жанчыны якраз і сабраліся людзі на п'янку, сярод іх быў стары знаёмы гаспадыні, які толькі нядаўна вярнуўся з месцаў пазбаўлення волі. Мяркуецца, што на глебе алкагольнага ап'янення ўзнікла сварка, а потым і бойка, у якой «стары знаёмы» забіў жанчыну. Напэўна, у гэты момант з вуліцы вярнуўся хлопчык, які міжволі стаў сведкам злачынства. Забойца з асаблівай жорсткасцю расправіўся і з хлопчыкам.

Зараз міліцыя шукае падазраваемага ў забойстве — жыхара Шклоўскага раёна, 1965 года нараджэння (але выглядае ён старэй — гадоў на сорак пяць), сярэдняга росту, хударлявага целаскладу, цёмнавалосага, моцна блізарукага — мужчына носіць акуляры ў цёмнай апраўе. Усіх, хто нешта ведае аб месцазнаходжанні гэтага чалавека, просяць паведаміць у любое аддзяленне міліцыі.

**Ілона ІВАНОВА.**

**Прэс-цэнтр Пракуратуры Рэспублікі Беларусь інфармуе:**

- Пракуратурай г. Мінска завершана следства і крымінальная справа накіравана ў суд у дачыненні да В., які абвінавачваецца ў тым, што, працуючы старшым інспектарам арганізацыйна-інспектарскага аддзела Упраўлення падатковых расследаванняў інспекцыі дзяржаўнага падатковага камітэта па Мінскай вобласці, па папярэдняй змове вымагаў у прадстаўнікоў фірмы «Ранс» 30 тысяч долараў ЗША.
- Мазырскай міжраённай пракуратурай скончана расследаванне крымінальнай справы ў дачыненні да начальніка аддзела дзяжурнай службы Мазырскай мытні С., 1956 г. нараджэння, які абвінавачваецца ў тым, што, халатна ставячыся да выканання службовых абавязкаў, без збору мытных плацяжоў афармляў вываз аўтамабіляў, чым дзяржаве нанесены ўрон на суму 475 млн. руб.

**Аляксей ТАРАНАЎ.**

# «САЮЗ БЕЛАРУСІ І РАСІІ ВЫРАТАВАЛЬНЫ ДЛЯ ЎСЯГО СЛАВЯНСТВА...»

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)

Менавіта ў глабальным геапалітычным кантэксце відаць выратавальнае для ўсяго славянскага свету значэнне ўтворанага Саюза Рэспублікі Беларусь і Расійскай Федэрацыі. Гэта сапраўды стратэгічны крок нашых народаў, якія аб'яднaлі палітычную волю, інтэлектуальныя намаганні і стваральную энергію людзей для пошуку шляхоў да нашага агульнага выжывання і працвітання.

Паслядоўная палітыка Рэспублікі Беларусь, накіраваная на ўмацаванне Саюза з Расіяй, захаванне і далейшае развіццё цывілізацыі ўсходніх славян, сустракае разуменне ў нашых сяброў, хоць і супярэчыць геапалітычным планам Захаду. Менавіта таму на Беларусь аказваецца масіраваны націск, мэта якога — дэстабілізацыя абстаноўкі ў рэспубліцы і радыкальнае змяненне яе знешняй і ўнутранай палітыкі.

Я не хачу, каб мае словы былі ўспрыняты як заклік да канфрантацыі з Захадам. Ні ў якім разе! Наадварот, мы павінны максімальна развіваць супрацоўніцтва ва ўсіх сферах, але гэта павінна быць раўнапраўнае супрацоўніцтва.

Становішча Рэспублікі Беларусь ускладняецца яшчэ і тым, што празаходнія сілы ў самой Расіі вядуць супраць яе актыўныя дзеянні. Яны лабіруюць заакіянскія інтарэсы, спрабуюць сарваць інтэграцыйныя працэсы, дыскрэдытуюць рэспубліку на міжнароднай арэне, вядуць антыбеларускую прапаганду.

Цывілізацыйнымі асаблівасцямі ўсходне-еўрапейскага, славянскага насельніцтва з'яўляюцца саборнасць, абшчыннасць, калектывізм, якія трывала ўвайшлі ў кроў і плоць нашых народаў, у традыцыі хрысціянскай культуры. Яны з'яўляюцца жыватворнай крыніцай іх яднання ў складаных сучасных умовах. Яны ж даюць ключ да разумення формаў і метадаў дэмакратычнай будовы дзяржавы на базе славянскіх традыцый усенароднага абмеркавання праблем (веча) і прыняцця рашэнняў. Мудрасць гаворыць: «Кола будучыні можа каціцца толькі на восі традыцый». Мы гэтага не адмаўляем.

Сёння добра відаць, што мы страцілі ў выніку распаду вялікай краіны, у якой адсутнічала беспрацоўе, былі надзейныя сацыяльныя гарантыі, быў дасягнуты высокі навуковы і культурны прагрэс. Беларусь адной з першых незалежных рэспублік усвядоміла гібельнасць учыненага акта і прыклала ўсе намаганні для выпраўлення сітуацыі. І мы вырашылі «ўсёй грамадой», «саборам» (сабраўшыся разам) вызначыцца, што рабіць далей. Мы пайшлі на рэферэндумы, на якіх вынеслі на суд людзей важнейшыя пытанні нацыянальнага выратавання: якой быць дзяржаве, месца ў ёй прэзідэнта, парламента; прадаваць ці не прадаваць зямлю ў прыватныя рукі; мець ці не мець роднаснай нам рускай мове статус дзяржаўнай. І народ пераважнай большасцю сказаў «так» таму курсу, якога мы прытрымліваемся і сёння.

Чаму беларускія рэферэндумы 1995 і 1996 года выклікалі перапалох як сярод «дамарослых рэфарматараў», так і на самім Захадзе? Ды таму, што беларускія рэферэндумы ў прынцыпе паставілі крыж на далейшым прадаўжэнні бяздумных, разбуральных эксперыментаў над народам. Патрыятычныя сілы, якія не жадаюць прытрымлівацца ўказанняў з-за акіяна і фінансавых цэнтраў Еўропы, выступілі супраць далейшага разграблення краіны, за навядзенне парадку ў дзяржаве і сапраўдную дэмакратызацыю грамадскіх адносінаў.

Гэта добра разумеюць і на Захадзе. Адсюль бясконцыя выпады і ўколы ў наш адрас.

Для заходніх палітыкаў, якія ўявілі сябе ўладарамі свету, косткай у горле стаіць прынцыповы і незалежны курс Беларусі ў міжнародных справах. Чаму Эстонія, Латвія, дзе славяне (рускія, беларусы, украінцы) пазбаўлены элементарных грамадзянскіх правоў, дзе маршыруюць былыя фашысцкія легіянеры, адпавядаюць «дэмакратычным стандартам», а мы не? Таму што мы не ідзём на повадзе ў Захаду, выступаем супраць пашырэння НАТО на Усход, адстойваем ідэю адзінства славянскіх народаў...

Высокі маральна-гуманістычны пафас, пошук жыццевучэння, здольнага дапамагчы знайсці шляхі ўвасаблення ў рэальнасць ідэй сацыяльнай справядлівасці, — другая характэрная асаблівасць славянскага светапогляду і культуры. Менавіта гэта асаблівасць аб'ядноўвае такіх непадобных мысліцеляў і таленавітых пісьменнікаў, як Францыск Скарына, Янка Купала, Тарас Шаўчэнка, Леў Талстой, Аляксандр Пушкін, Фёдар Дастаеўскі.

І, можа, самы галоўны аргумент на карысць брацкага саюза заключаецца ў тым, што і ў мінулыя стагоддзі, і цяпер неабходнасць яднання ўсведамлялася і ўсведамляецца нават на бытавым узроўні. Выклікана гэта не толькі палітычнай і эканамічнай неабходнасцю, але і прычынамі вышэйшага парадку, агульнымі законамі развіцця ўсходнеславянскай цывілізацыі.

Мы павінны бачыць нашы народы, нашу будучыню ў аспекце адзінства і разнастайнасці, бо наша агульнасць не азначае тоеснасці.

Менавіта ўнутраная разнастайнасць робіць нас жыццяўстойлівымі, здольнымі да развіцця і дасць магчымасць нашай цывілізацыі дасягнуць, што называецца, «квітнеючай складанасці».

Традыцыйныя каштоўнасці нашых народаў — вера, Айчына, абшчыннасць, праца, нацыянальная і рэлігійная цярпімасць, справядлівасць, гатоўнасць дапамагчы слабаму, абараніць уніжанага, спачуваць убогаму — служаць маякамі ў гэтай святой справе.

У сферы палітыкі, перш за ўсё, неабходна ўсвядоміць, што вылучэнне на першы план вузка нацыянальных праблем выкарыстоўваецца для замацавання палітычнай раздробленасці славянскага свету. Гэта абавязвае настойліва працягваць збліжэнне ў палітычнай сферы, стварыць пасапраўднаму эфектыўны механізм узаемадзеяння нашых дзяржаў, выступаць на міжнароднай арэне адзіным фронтам.

Славянскія народы спрабуюць разбэсціць ідэйна і духоўна, імкнуцца проціпаставіць іх адзін аднаму. Таму крайне неабходна стварыць пастаянна дзеючую, шматузроўневую, апераджальную сістэму ідэалагічнай работы, прапаганды і контрпрапаганды.

Асноўным элементам такой сістэмы павінна быць, у першую чаргу, палітычнае арыентаванне нашых народаў, стварэнне неабходнай маральна-псіхалагічнай атмасферы ў грамадстве, выпрацоўка імунітэту да ўсіх відаў інфармацыйнай агрэсіі.

Важна сканцэнтраваць намаганні на фарміраванні і замацаванні ў грамадскай свядомасці народаў замежных краін станоўчага вобраза славян, лаяльных адносінаў да знешняй і ўнутранай палітыкі іх дзяржаў. Эфектыўным механізмам вырашэння гэтай задачы маглі б стаць сродкі масавай інфармацыі агульнаславянскай патрыятычнай накіраванасці, для якіх бы галоўным было не пагоня за сенсацыяй, а любоў да сваёй Айчыны, да свайго народа, да разнастайнай славянскай сям'і.

У нас не так шмат часу. Калі хтосьці лічыць, што можна дзесяцігоддзямі абмяркоўваць наспелыя пытанні паглыблення палітычнай і эканамічнай інтэграцыі, уніфікацыі заканадаўстваў, выпрацоўкі адзінай валютнай палітыкі, той глыбока памыляецца. Час вычарпаны. Ужо сёння трэба прымаць тэрміновыя меры.

Нам патрэбен інтэграцыйны прарыў, інакш мы рызыкуем апынуцца на задворках гісторыі.

Акрамя таго, мы павінны падаць прыклад іншым славянскім народам. Настане час, і тыя, хто сёння імкнецца ў абдымкі Захаду, зразумеюць, што свае нацыянальныя інтарэсы яны могуць адстаяць толькі ў рамках сваёй цывілізацыйнай супольнасці.

Веру, што рускія і беларусы будуць разам, як веру і ў тое, што разам будуць усе ўсходнеславянскія народы.

Да гэтага нас абавязвае і мінулае, і сучаснае і будучае. Іншае — ненатуральна.

**БЕЛТА.**

*ДАСЛОЎНА*

## «САЮЗ БЕЛАРУСІ І РАСІІ МОГ БЫ СТАЦЬ ПАДАБЕНСТВАМ «ШЭНГЕНА»

**Намеснік дырэктара ФСБ Расіі генерал-палкоўнік Анатоль Сафонаў даў інтэрв'ю галоўнаму рэдактару ўплывовага расійскага штотыднёвіка «Общая газета» Ягору Якаўлеву. Публікуем вытрымкі з інтэрв'ю:**

*— Узначальваючы сёння Камітэт па пытаннях бяспекі расійска-беларускага Саюза, у чым вы бачыце яго перспектывы?*

— Паглядзіце, якія буйныя розумы прадумалі прынцыпы станаўлення Еўрасаюза. Яны казалі аб трох асноўных адзінствах — валюты, грамадзянства, абароннай і праваахоўнай палітыкі. Органы бяспекі напрамую прысутнічаюць не толькі ў апошнім выпадку, але і ў першых двух, забяспечваючы эканамічную і сацыяльную бяспеку. З другога боку, у Еўрасаюзе ёсць больш дынамічная «шэнгенская група», якая з'яўляецца як бы маторам усяго цэлага. Я мяркую, што Саюз Беларусі і Расіі мог бы стаць падабенствам «Шэнгена» — магутным магнітным полем, якое прыцягнула б да сябе іншыя дзяржавы СНД. Трэба толькі памятаць, што нават калі гэты Саюз стане суб'ектам міжнароднага права, але будзе пазбаўлены наднацыянальных структур, ён застанецца толькі на паперы.

*— Наколькі складанасці Саюза залежаць ад характару і стылю паводзінаў прэзідэнта Беларусі?*

— Я зыходзіў бы з таго, што ні ў інстытутах улады нашых краін, ні ў паводзінах іх лідэраў няма сёння нічога застылага. Аляксандр Рыгоравіч Лукашэнка — буйны палітычны дзеяч, але ён, як і ўсе мы, знаходзіцца ў працэсе фарміравання асобы. Нашы кантакты і тая інфармацыя, якой мы абменьваемся, садзейнічаюць выпрацоўцы больш сталых і адказных рашэнняў з абодвух бакоў. А папрокі, якія чуюцца сёння ў адрас Лукашэнкі, могуць быць як абгрунтаванымі, так і з'яўляцца толькі дэкарацыяй для іншых планаў. Я лічу, што апошнія паездкі Лукашэнкі па Расіі ідуць на карысць.

*— Якая структура камітэта бяспекі новага Саюза?*

— Камітэт складаецца з дзвюх рабочых груп. Адна знаходзіцца ў Маскве і ўваходзіць у агульную структуру ФСБ, не адрываючыся ад яе інфармацыйнай базы. Другая — у Мінску, дзе ўваходзіць у іх КБ. Ствараецца каардынуючы канал узаемадзеяння. Калі Саюз будзе пашырацца па тыпу Еўрасаюза, то, паўтараю, наднацыянальных структур кіравання нам не пазбегнуць.

**Ірына ПЕТРАКОВА,
уласны карэспандэнт газеты «Звязда» ў Маскве.**

## Тры пытанні да чытача

### Прызнанні ў любові ў паштовым канверце

**На жаль, супрацоўнікі газеты не могуць задаць гэтыя тры пытанні сваім шматлікім падпісчыкам. А хацелася б ведаць меркаванні як мага большай колькасці чытачоў аб нашай «Звяздзе». Таму вельмі ўсцешвае, калі ў сваіх допісах вы дзеліцеся з намі сваімі думкамі і прапановамі.**

«Шмат давялося пабачыць у жыцці. Але я не скарджуся на свой лёс. У вольную хвіліну ўспамінаю маладосць. А яшчэ люблю разгарнуць сваю нязменную газету «Звязда», якую выпісваем і чытаем з жонкай ужо шмат гадоў. Падабаецца яна нам сваёй прастатой і даступнасцю слова. Шмат можна знайсці на яе старонках пра жыццё народа, пра палітычны рух у краіне (мяне гэта вельмі хвалюе), пра франтавыя дарогі з успамінаў былых воінаў. Без увагі не пакідаю ніводнай старонкі, ніводнага радка. Хочацца, каб гэта газета была заўсёды. Каб яна была жаданай у кожным доме, у кожнай сям'і — так, як у нас» — такія цёплыя словы мы прачыталі ў лісце **Пятра Іванавіча Рогача** з вёскі Каралеўцы Вілейскага раёна.

А настаўнік Даманаўскай школы, што ў Івацэвіцкім раёне, **Вікенцій Іванавіч Мароз** прапанаваў нам свае адказы на тры пытанні, якія рэдакцыя задае сваім чытачам.

**«1. Чаму вы чытаеце і выпісваеце «Звязду»?**

Упершыню выпісаў «Звязду» ў 1948 г., калі вучыўся ў Нясвіжскім педвучылішчы. Былі і перапынкі. Але ўжо больш за 30 гадоў выпісваю яе пастаянна.

**2. Што падабаецца ў газеце?**

Паважаю, што яна выходзіць на беларускай мове. Яна насычаная рознымі навінамі, матэрыяламі з жыцця нашай краіны і замежжа. Матэрыялы бываюць на розныя тэмы. Аб'ектыўныя і пазітыўныя, глыбокія і змястоўныя. Няма хвалебных одаў лідэрам. У газеце амаль няма рэкламы, якая ў іншых выданнях проста пануе.

**3. Што не падабаецца ў «Звяздзе», чаго ёй нестае?**

Па-мойму, трэба больш пісаць пра выдатных працаўнікоў, маральна чыстых і сумленных людзей. Няхай пра іх ведаюць чытачы. Больш друкаваць пісьмаў саміх чытачоў, калі яны заслугоўваюць увагі, актуальныя, праўдзівыя, з веданнем справы.

Усё радзей на старонках газеты з'яўляецца палеміка па той ці іншай праблеме. А вось крыміналу ў газеце, лічу, больш чым трэба.

Хацелася б на старонках «Звязды» бачыць больш аргументаваных матэрыялаў па гісторыі Беларусі, беларускай культуры. Не абмінайце ўвагай праблему выхавання моладзі...»

**Вялікі дзякуй усім, хто дасылае свае меркаванні пра «Звязду». Мы кожнае з іх уважліва чытаем і пастараемся працаваць далей, улічваючы ўсе вашыя заўвагі і пажаданні.**

*БЕЛАРУСЬ — ГЕРМАНІЯ*

## ПЕРСПЕКТЫВЫ РАЗВІЦЦЯ СУПРАЦОЎНІЦТВА Ў XXI СТАГОДДЗІ

**Гэтая тэма грунтоўна абмяркоўваецца вучонымі Беларусі і Германіі ў Беларускім дзяржаўным універсітэце інфарматыкі і радыёэлектронікі на сустрэчы з гадавымі стыпендыятамі нямецкай службы акадэмічных абменаў (ДААД).**

На адкрыцці сустрэчы выступіў новы пасол ФРГ у Беларусі Хорст Вінкельман. Ён падкрэсліў, што ўрад і народ Германіі вельмі хочуць паглыбляць адносіны з нашай краінай. Гэта заява надала аптымістычны імпульс рабоце навукоўцаў. Яны абмяркоўваюць перспектывы супрацоўніцтва ў галінах эканомікі, палітыкі, адукацыі, культуры і г. д. На думку беларускіх і нямецкіх спецыялістаў, дзвюм краінам неабходна развіваць шматгранныя адносіны, бо гэта ў інтарэсах іх народаў.

**Леанід ТУГАРЫН.**

*ПРЭМ'ЕРА*

## «БЕЛАЯ КАРЦІНА» ДЛЯ БЕЛАРУСКІХ ТЭАТРАЎ

**На прэм'еру спектакля «Арт» рэжысёр Мікалай Пінігін прыехаў спецыяльна з Пецярбурга. Пастаноўку п'есы Ясміны Рэза, якая мела неверагодны поспех у свеце, наш вядомы рэжысёр ажыццявіў разам з Малым тэатрам Ігара Забары. Вось толькі за той час, як ішла праца, адбылося шмат змен. Кіпелі страсці вакол Малога тэатра, і аднойчы запланаваная прэм'ера не адбылася. Ды і Мікалай Пінігін перастаў быць рэжысёрам Купалаўскага тэатра і з'ехаў у суседнюю краіну, дзе яго вельмі чакалі. Але хвалявала — як там, у родным Мінску, пройдзе прэм'ера апошняй беларускай пастаноўкі.**

На пытанне «як?» цяпер можна адказаць: «З аншлагам». Прэм'еру напрыканцы тэатральнага сезона чакалі доўга. Па-першае, перад летнім зацішшам трэба набрацца новых эмоцый. Па другое, шмат размоў было вакол тэатра і рэжысёра, які пакінуў радзіму. Па-трэцяе, назва п'есы на афішах выглядала шматабяцальна. Канешне, спектакль хутчэй за ўсё будзе пра мастацтва. Тым больш сучаснае мастацтва, ці пра погляды на яго.

Вось менавіта погляды на мастацтва трох сяброў і аказаліся ў цэнтры ўвагі. Для аднаго «белая карціна на белым фоне» — вышэйшае мастацкае дасягненне, другі знаходзіць, што тут нешта ёсць, а трэці безапеляцыйна называе гэта «мазнёй». Пачынаецца высвятленне адносінаў паміж героямі: чаму яны сябравалі, хто каму болей патрэбны і ці варта парушаць сяброўства з-за нейкай там белай «мазні»? Сяброўства — гэта тое, чым трэба даражыць у першую чаргу, лічыць самы «памяркоўны» персанаж спектакля, ролю якога бліскуча выканаў заслужаны артыст РБ Віктар Манаеў. У рэшце рэшт, менавіта ён імкнецца дакрычацца да розуму герояў Сяргея Жураўля і Ігара Забары. І менавіта ігра Манаева надае спектаклю патрэбную іранічнасць. Бо назва п'есы — «Арт» — з самага пачатку настройвала публіку на нейкі канцэптуалізм. Спектакль, насуперак чаканням, аказаўся лёгкім, вельмі чалавечным. І гэта самае прыемнае, бо сапраўднае мастацтва накіравана на чалавечую душу, эмоцыі, пачуцці, дае магчымасць паразважаць, што ўтрымлівае разам вельмі розных людзей. «За сябрамі трэба прыглядаць, інача яны могуць адысці», — сказаў адзін з персанажаў спектакля.

Ці не так? Бывае, нас пакідаюць вельмі дарагія людзі. Гэта балюча. Бывае, таленавітыя людзі не разумеюць адзін аднаго. А бывае — тыя, чый талент стаў блізкі многім гледачам, адчуваюць сябе незапатрабаванымі. І таксама сыходзяць. Вельмі шкада.

Калі спектакль скончыўся, Мікалай Пінігін спыніў доўгія авацыі добра вядомымі ўсім радкамі: «Мой родны кут, як ты мне мілы, забыць цябе не маю сілы...»

**Ларыса ЦІМОШЫК.**

## У СВЕЦЕ

### Інфарм-кактэйль

Амерыканскія энтамолагі выступілі з папярэджаннем аб сур'ёзнай напасці, якая ў гэтым годзе можа чакаць жыхароў шэрагу рэгіёнаў ЗША. Гэтая напасць — камары і маскіты, якіх у гэтым годзе можа нарадзіцца вялікае мноства. «Выбух парадаксальнасці» крывасосных прадвызначаны прыродным феноменам «Эль-Ніньё» — змяненнем ціхаакіянскіх цячэнняў, вынікам якога стала незвычайна мяккая зіма. Для размнажэння камароў створаны ідэальныя ўмовы. Акрамя чыста бытавых нязручнасцяў, рэзкае павелічэнне колькасць камароў пагражае і распаўсюджаннем шэрагу небяспечных хвароб. Спецыялісты заклікаюць грамадзян пазбягаць прагулак на захадзе сонца, калі камары найбольш актыўныя, не з'яўляцца паблізу стаячых вадаёмаў.

**Рэйтэр.**

*Чым начныя гадзіны прыцягваюць маладых немак? У гэтыя гадзіны яны вельмі любяць... глядзець парнафільмы. Гэта вызначала апытанне. Сярод прадстаўніц прыгожай палавіны ва ўзросце ад 20 да 35 гадоў 72 працэнты іх прызналіся, што атрымліваюць задавальненне ад парнафільмаў, якія ідуць па кабельным тэлебачанні.*

**ІТАР—ТАСС.**

### СЕКСУАЛЬНЫ ПАРФУМ

У ЗША ў парфумерных магазінах прадаецца своеасаблівая туалетная вада для мужчын. Праведзеныя навуковыя даследаванні паказалі, што яе выкарыстанне павышае сексуальную прыцягальнасць прадстаўнікоў моцнага полу. Сексуальная туалетная вада ўтрымлівае эквівалент перамону — палавога атарктанту — субстанцыі, якая не мае паху і якую выдзяляюць жывёлы і людзі, — якая выклікае неўсвядомленую біялагічную рэакцыю ў тых, хто побач.

Вучоныя прыйшлі да высновы, што мужчыны, якія карыстаюцца сродкам Афіна Перамон 10Х (Athena Pheromon 10X) больш цалуюцца, карыстаюцца вялікім поспехам у жанчын і маюць больш сексуальных кантактаў.

У мэтах эксперыменту 38 мужчын выкарыстоўвалі прадастаўленую туалетную ваду на працягу шасці тыдняў і вялі ў гэты час дзённік сваіх сексуальных перамог. 17 карысталіся Перамонам, а астатнія — зусім нейтральным сродкам.

Вынік гаворыць сам за сябе: восем чалавек, якія атрымалі цудадзейны сродак, канстатавалі павышэнне колькасці інтымных сувязяў, а яшчэ сем сталі значна часцей цалавацца. У другой групе такіх «шчаслівўчыкаў» было два і тры чалавекі адпаведна.

*Ляхавіцкі завод металапластмас*

# НЕ АДСТАЦЬ АД ЧАСУ

**Чысціня і парадак — з'ява для прадпрыемстваў у правінцыі нетыповая. А вось завод металапластмас, які размясціўся за горадам побач з чыгункай Баранавічы—Лунінец, найперш і прыцягвае ўвагу сваёй добраўладкаванасцю. Знешні выгляд адміністрацыйнага корпуса, сталовай, прахадной гаворыць, што справы на прадпрыемстве ідуць някепска.**

Сёлета заводу спаўняецца 20 гадоў, хаця толькі з 1990 года адбыліся істотныя зрухі ў яго жыцці. Калектыў узяў маёмасць завода ў арэнду з правам выкупу ў будучым. А ў 1993 годзе прадпрыемства было прыватызавана. Праз два гады калектыў поўнасцю разлічыўся з дзяржавай. Вядома ж, усё гэта зрабіць было няпроста, але тым не меней сёння прадпрыемства належыць калектыву.

Завод выпускае немудрагелістую прадукцыю, хаця адсутнасць яе можа паралізаваць работу кансервавых, лікёра-гарэлачных, вінных і іншых заводаў краіны.

Абсталяванне завода дазваляе перапрацоўваць поліэтылен нізкага і высокага ціску, а таксама іншыя палімеры, якія перапрацоўваюцца метадам ліцця пад ціскам.

Завод пастаўляе сваім спажыўцам скрынкі палімерныя, многаабаротныя, для ўпакоўкі, транспарціроўкі і захавання бутэлек з віном, каньяком, гарэлкай, безалкагольнымі напоямі і г. д. Акрамя тары прадпрыемства вырабляе поліэтыленавыя коркі для шкляных бутэлек рознага тыпу. Імі закаркоўваюць шампанскае і шыпучае віно, каньяк і каньячныя вырабы, віно і настойкі, якія знаходзяцца ў бутэльках ёмістасцю ад 0,5 да 0,8 л.

Шырокім попытам карыстаюцца ў насельніцтва і кансервавых заводаў накрыўкі металічныя, якія таксама выпускае завод металапластмас. Гэтымі накрыўкамі закрываюць слоікі пры кансерваванні садавіны і агародніны.

Завод працуе стабільна, як толькі можна працаваць у наш эканамічна нестабільны час.

Ужо заўважана: калі прадпрыемства сёння рэнтабельнае, то ў гэтым вялікая заслуга яго кіраўніка. Вось і з генеральным дырэктарам завода металапластмас Генадзем Секачам звязана ўсё лепшае на прадпрыемстве. Менавіта дзякуючы яму завод перайшоў ва ўласнасць калектыву, а гэта істотна стымулявала работу прадпрыемства. З'явіўся гаспадар. Пачалося будаўніцтва і рэканструкцыя вытворчых памяшканняў. Прыйшлося ўшчыльную заняцца дысцыплінай, на заводзе засталіся тыя, хто хацеў працаваць.

Але ж толькі на адной дысцыпліне немагчыма бясконца павышаць аб'ём вытворчасці, неабходна было правесці і мадэрнізацыю тэхналагічнага працэсу.

У цэху па вытворчасці накрывак устанавілі аўтамат па ўкладцы ў накрыўкі ўшчыльняльных гумак (раней укладвалі ўручную) — і прадукцыйнасць працы вырасла ў дзесяць разоў.

Імкненне не адстаць ад часу і прагрэсу прымушае пастаянна быць у курсе ўсіх навінак тэхналогіі і асвойваць выпуск новай прадукцыі.

Генадзь Міхайлавіч зрабіў усё, каб завод атрымаў крэдыт ад Еўрабанка рэканструкцыі і развіцця для закупкі італьянскай лініі па вытворчасці металічных накрывак тыпу «твіст-Оф» для слоікаў.

Абсталяванне было ўстаноўлена, і ў гэтым годзе пачалі выпускаць новую прадукцыю.

### НАКРЫЎКА «ТВІСТ-ОФ» (ДАСТ 25749-83; СТСЭУ 3445-81)

Мы даволі кансерватыўныя людзі: калі ўжо да чаго прывыклі, то нам з гэтым цяжка развітацца. Вось так і з металічнымі накрыўкамі, якія неабходна закрываць спецыяльным прыстасаваннем для кансервавання, а затым накрыўка выкідваецца, як непрыгодная для паўторнага выкарыстання. здаецца, гэтыя накрыўкі на прасторах былога Саюза былі заўсёды. Яны даўно састарэлі не толькі маральна, але і ўступаюць па ўсіх тэхнічных паказчыках накрыўцы еўрапейскага ўзору «твіст-Оф», якая:

■ Выраблена з трывалага матэрыялу, стойкая да карозіі і вады. Вытрымлівае пры кансерваванні t +120°С.

■ Закрываецца лёгка, без выкарыстання дапаможнага прыстасавання ў бытавых умовах.

■ Дазваляе захоўваць якасць, колер, водар і смак прадуктаў.

■ Накрыўка мнагаразавая. Пры частковым выкарыстанні прадукту слоік зноў можна шчыльна закрыць.

Пры ўсіх гэтых тэхнічных перавагах накрыўка «твіст-Оф» надае слоіку яшчэ і знешне эстэтычны выгляд, што дапаможа павысіць канкурэнтаздольнасць нашых кансерваў на знешнім рынку.

Ляхавіцкі завод металапластмас — гэта адзінае прадпрыемства на прасторах СНД, якое наладзіла вытворчасць новых накрывак.

Сёння іх якасць ацанілі нашы пчаляры. Слоікі з накрыўкай «твіст-Оф» аказаліся ідэальным посудам для мёду. Але завод выпускае ў суткі 300 тысяч накрывак, а ў год гэта дзесяткі мільёнаў штук, і, каб знайсці спажыўца, патрэбен дзяржаўны падыход, неабходна мадэрнізацыя шэрагу прадпрыемстваў.

І, як бачым, наладзіць выпуск накрывак — яшчэ не значыць зрабіць рэвалюцыю ў кансервавай прамысловасці. У пэўнай ступені тормазам тут з'яўляецца і вядомы нам кансерватызм. Навошта займацца перааснашчэннем закатачнага абсталявання, праводзіць тэхналагічнае абнаўленне вытворчасці, затрачваць фінансавыя сродкі, калі яшчэ можна працаваць па-старому.

Толькі вось гэтая адтэрміноўка часовая. Рынак прымусіць кіраўнікоў перапрацоўчай прамысловасці пачаць укараненне накрыўкі, якая адпавядае міжнародным стандартам. Інакш дары беларускага лесу і саду ніколі не трапяць на экспарт.

**Матэрыял падрыхтаваў Сымон СВІСТУНОВІЧ.**



## СЁННЯ

### СОНЦА

| | Усход | Заход | Даўжыня дня |
|---|---|---|---|
| Мінск | 4.48 | 21.26 | 16.38 |
| Віцебск | 4.30 | 21.23 | 16.53 |
| Магілёў | 4.37 | 21.15 | 16.38 |
| Гомель | 4.41 | 21.06 | 16.25 |
| Гродна | 5.03 | 21.41 | 16.38 |
| Брэст | 5.13 | 21.32 | 16.19 |

### МЕСЯЦ

**Маладзік 25 мая**

*З 7.43 — 5-ыя месяцавыя суткі.*
*З 21.39 Месяц — у сузор'і Льва, да гэтага — у Раку.*

### ІМЯНІНЫ

**ПР. Фёдара, Яфрэма, Музы**
**К. Урсулы, Багуславы, Магдалены**

### НАДВОР'Е

Сёння ўдзень па рэспубліцы захаваецца пераменная воблачнасць, без ападкаў. Тэмпература паветра ў Віцебску — 20—22, Гродне і Магілёве — 21—23, Мінску і Гомелі — 22—24, Брэсце — 23—25 градусаў цяпла.

У наступныя двое сутак пераменная воблачнасць, пераважна без ападкаў. Тэмпература ўначы — 10—15, удзень — 23—28, па поўначы ўначы — 6—11, удзень — 18—23 градусы вышэй нуля.

**Адміністрацыя Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь выказвае глыбокае спачуванне народнаму пісьменніку Беларусі І. П. Шамякіну ў сувязі з вялікім горам, якое яго напаткала, — смерцю ЖОНКІ.**

**Савет Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь выказвае глыбокае спачуванне народнаму пісьменніку Беларусі Івану Пятровічу Шамякіну ў сувязі з напаткаўшым яго вялікім горам — смерцю ЖОНКІ.**

**Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь выказвае глыбокае спачуванне Герою Сацыялістычнай Працы, народнаму пісьменніку Беларусі Івану Пятровічу Шамякіну з вялікім горам, якое яго напаткала, — смерцю ЖОНКІ Марыі Філатаўны.**

**С. С. Лінг, У. Г. Гаркун, В. Б. Далгалёў, У. П. Заматалін, Л. П. Козік, В. І. Кокараў, Г. В. Навіцкі.**

**Дзяржаўны камітэт Рэспублікі Беларусь па друку выказвае глыбокае спачуванне народнаму пісьменніку Беларусі, Герою Сацыялістычнай Працы, акадэміку НАН, былому галоўнаму рэдактару выдавецтва «Беларуская энцыклапедыя імя П. Броўкі» Івану Пятровічу Шамякіну з прычыны напаткаўшага яго вялікага гора — смерці ЖОНКІ Марыі Філатаўны.**

**Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь выказвае глыбокія спачуванні народнаму пісьменніку Беларусі Івану Пятровічу Шамякіну ў сувязі з вялікім напаткаўшым яго горам — смерцю ЖОНКІ.**

# ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ

## Панядзелак, 1 чэрвеня

(Заканчэнне на 4-й стар.)

**Беларускае тэлебачанне**

**7.00** Добрай раніцы, Беларусь!
**8.00** Рэзананс.
**8.45** «У добры шлях!» Выступленне міністра адукацыі Рэспублікі Беларусь В. І. Стражава.
**8.53** Выпускны экзамен па беларускай і рускай мовах за курс базавай школы.
**9.05** «Сёння з вамі...» Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі кампазітар Уладзімір Кур'ян.
**9.40** Тэлебарометр.
**9.55** Прэм'ера песні.
**10.15** Здароўе. Тэлечасопіс.
**10.45** «Справы судовыя». Тэлесерыял (ЗША).
**11.35** Абібок.
**12.05** Тэленавігатар.
**12.25** «А музыка гучыць...» Песні на вершы Уладзіміра Карызны.
**13.00** Навіны.
**13.10** Дзённы сеанс. «Нарт». Маст. фільм для дзяцей (ЗША).
**14.45** Мультфільм.
**15.00** Навіны.
**15.10** Відэакурс французскай мовы.
**15.40** Параграф. Перадача для беспрацоўных.
**16.00** Да Міжнароднага дня абароны дзяцей. «Увага! Гавораць дзеці».
**16.30** Рэгіён. Перадача з Гомеля.
**17.00** Канцэртны сезон. Спявае заслужаны артыст Беларусі Мікалай Скорыкаў.
**17.30** Госці ў дом. Да Міжнароднага дня абароны дзяцей.
**18.00** Навіны (з сурдаперакладам).
**18.20** «Справы судовыя». Тэлесерыял (ЗША).
**19.15** Беларускі хіт-парад.
**19.20** «Сёння з вамі...» Старшыня Рэспубліканскага грамадскага аб'яднання «Здароўе — дзецям» Вольга Тарасенка.
**20.00** «Марскі бой». Тэлелато.
**20.40** Калыханка.
**21.00** Панарама.
**21.55** «Смяяцца — не грэх».
**22.15** Фільмы нашай памяці. Вера Марэцкая ў маст. фільме «Сярод добрых людзей».
**23.35** Трэці тайм.
**0.05** Навіны.
**0.20** «Футбол-98». На шляху да чэмпіяната свету». 9-я серыя.

**ГРТ**

**17.00, 0.30** Навіны.
**17.20** «Ракавая спадчына».
**18.05** Гадзіна пік.
**18.30** Адгадай мелодыю.
**19.00** Панядзелак з Познерам. Праграма «Чалавек у масцы».
**19.45** Добрай ночы, малышы!
**20.00** Час.
**20.40** Легендарны серыял «Гора».
**21.50** Фільм «Верны Руслан».
**23.40** Ралан Гарас. Адкрыты чэмпіянат Францыі па тэнісу.

**Расія**

**16.00, 19.00, 22.35** Весткі.
**16.30** Дак. экран. «Гэта Масква».
**16.45** Кальцавыя аўтагонкі.
**17.40** Аляксандр Калягін, Маргарыта Церахава і Ада Рагоўцава ў лірычнай драме «Дзеці як дзеці».
**19.25** Падрабязнасці.
**19.45** «Санта-Барбара». Тэлесерыял.
**20.45** Шарон Стоун у меладраме «Слёзы пад дажджом» (ЗША).
**22.55** Дзяжурная часць.
**23.10** Бэзавы туман.
**23.50** Аўташоу.

**Культура**

**7.05, 13.00, 19.30, 23.00** Навіны культуры.
**7.25** Музычны экспромт.
**7.40** «Прададзены смех». Маст. фільм («Беларусьфільм», 1981 г.). 2-я серыя.
**9.00, 11.00, 15.00, 17.00** Навіны.
**9.05** «Кругаварот». Дак. дэтэктыў.
**9.20** Пецярбургскі гурмэ.
**9.35** «Царская ложа». Н. Дудзінская.
**10.15** Кансіліум.
**10.45** Кніжны кладзезь.
**11.05** «Дзіцячае ТБ». «Маленькія зорачкі-98».
**11.35** А. М. Астроўскі. «Снягурка». Спектакль Уладзімірскага абласнога тэатра лялек. Рэжысёр В. Міадушэўскі.
**12.50** Мультыплікацыйны фільм.
**13.15** «Надзея-98». Канцэрт.
**13.40** Кембрыдж — Оксфард. Гонка на Цемзе.
**14.05** Асцярожна, дзеці!
**14.20** Лета пачынаецца з усмешкі.
**14.40** Разам з Фафалем.
**15.05** «У свеце пушкінскай паэзіі». Аўтарская праграма Ю. М. Лотмана. Перадача 1-я.
**15.55** «Лукамор'е». Дзіцячая забаўляльна-пазнавальная праграма.
**16.15** Бачу цэль!
**16.45** Камп'ютэр.
**17.05** «2003». Да 300-годдзя Санкт-Пецярбурга.
**17.10** Міжнародны агляд.
**17.50** «Скарбы Пецярбурга». Рускі музей. «Чароўная страла».
**18.05** Эксклюзіўнае інтэрв'ю тэлеканалу «Культура». Пісьменнік Умберта Эко.
**18.25** «Дакумент-панарама». Дак. фільм «Пячнік і магільшчык» і «Пу-барабан». Рэжысёры А. Жалязнякоў, А. Анчугаў.
**19.20** Цуд-казка.
**19.50** Р. Штраус. «Саламея». Тэлеверсія балета Музычнага тэатра імя К. Станіслаўскага і В. Неміровіча-Данчанкі.
**20.45** Пасля навін...
**21.05** «Вецер у спіну». Маст. фільм (Канада, 1994 г.). Рэжысёр Г. Фрост. 1-я серыя.
**21.55** «Вечар рускай паэзіі і старадаўняга раманса». Літаратурна-музычная кампазіцыя. Выконвае Аляксей Пакроўскі.

**НТБ**

**5.00, 5.30, 6.00, 6.30, 7.00, 7.30, 9.00** «Сёння раніцай».
**5.15, 7.35** Крымінал.
**5.20, 6.50** Я — целаахоўнік.
**5.35** Карданны вал.
**5.40** Градуснік.
**5.50, 7.20** У запас.
**6.10** Надвор'е. Прагноз НТБ.
**6.15** Дзень у гісторыі.
**6.20, 7.15** Гадзіна быка.
**6.25** Сённячка.
**6.35** Жывыя навіны.
**6.40** Навіны шоу-бізнесу.
**7.40** Гадзіна серыяла. Ігар Старыгін, Марына Дзюжава, Вія Артмане і Арыстарх Ліванаў у фільме «Дзяржаўная граніца». Фільм 1-ы. «Мы наш, мы новы...» 1-я серыя.
**9.10** Учора ў «Выніках».
**10.10** «Усяго» з Віктарам Шандаровічам.
**10.25** Вынікі. Начная размова.
**11.00, 13.00, 15.00** Сёння ўдзень.
**11.25** «Стары тэлевізар» успамінае: «Сакрэтны фарватэр». Частка 8-я, заключная.
**13.15** Серыял «Каханне і тайны Сансет Біч» (ЗША).
**14.00** Дыстанцыя.
**15.20** Праграма для дзяцей «Вуліца Сезам».
**15.50** Мультсерыял «Чалавек-павук». 1-я серыя (ЗША).
**16.15** Свет прыгод і фантастыкі. Джо Лара ў фільме «Тарзан». 1-я серыя (ЗША).
**17.05** Крымінал.
**17.15** У запас.
**17.25** Футбольны клуб.
**18.00, 21.00** Сёння ўвечары.
**18.40** Герой дня.
**19.00** Свет кіно. Камедыя жахаў Стывена Херэка «Зубасцікі». Фільм 1-ы (ЗША).
**20.40** Праграма на біс. «Лялькі».
**21.50** Гадзіна серыяла. «Дзяржаўная граніца». Фільм 1-ы. «Мы наш, мы новы...» 1-я серыя.
**23.10** Сённячка.
**23.45—0.10** Сёння апоўначы.

**8-ы канал**

**18.00** Праграма Кенета Копланда.
**18.30** Тэлефільм «Сваавольнікі».
**18.45** Мая Брытанія.
**19.15** Баявік «Кунг-фу».
**20.00** Аэробіка «Новы Эдэм».
**20.30** Мультпланета. У. Дыснея.
**20.40** Аўтамабілі і запчасткі.
**20.45** Шматсерыйны фільм «Чарлі Шампань».
**21.40** Відэатавары. Тэхніка ў быце.
**21.45** Тэлемагазін.
**22.00** Дэтэктыў па панядзелках... Жан-Поль Бельмандо ў маст. фільме «Труп майго ворага».

